ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 69 (1706) | Аўторак, 28 жніўня 1962 года | Цана 4 кап.





Дзень шахцёра... Мінуў той час, калі свята гэтае мела да Беларусі толькі ўскоснае дачыненне. 26 жніўня мы шчыра віншавалі з ім і сваіх, беларускіх шахцёраў. Такім аўтарытэтным і відным з'яўляецца зараз атрад беларускіх шахцёраў, што нават мае свайго прадстаўніка ў вышэйшым органе ўлады краіны. Вось ён перад вамі — перадавы машыніст камбайна на Салігорскім калійным камбінаце, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Леанід Булгак.

Фота М. МІНКОВІЧА.

# ЗА ЗДАРОЎЕ ЎСІХ!

А. КОРХАЎ, галоўны ўрач 3 бальніцы г. Мінска.

Пачну з аднаго, зусім нядаўняга прыкладу, які цяжка, амаль немагчыма забыць. У Мінску, у горадзе, дзе на кожныя 300 чалавек насельніцтва прыпадае адзін урач, дзе працуюць клінічныя бальніцы з самым дасканалым медыцынскім абсталяваннем, у сталічным горадзе Мінску памёр чалавек, якому яшчэ не споўнілася 30 гадоў. Памёр, уявіце сабе, ад апендыцыту!

Тут не было выключна цяжкага выпадку, не было і памылкі хірурга пры аперацыі. Проста значынная лёгкадумнасць у адносінах да сябе, да свайго здароўя. Пяць прыступаў чалавек перахадзіў на нагах — «абыдзецца як-небудзь, перацярплю». А калі ноччу машына хуткай дапамогі прывезла яго ў бальніцу, аперацыя была ўжо справай дарэмнай.

Чаму так бязглузда абарвалася жыццё маладога чалавека? Хто ў гэтым вінаваты? Можна сказаць, і тут не будзе памылкі, што вінаваты толькі ён сам. Але каму ад гэтага стане лягчэй?

Кожны такі выпадак прымушае зноў і зноў задумацца. Магчыма, і мы ў чым-небудзь вінаваты, чагосьці недагледзелі, не ўлічылі? Магчыма, лёгкадумнасць, якую праявіў хворы, не проста рыса яго характару, а і адзнака невысокай культуры, невуцтва ў пытаннях медыцыны, санітарыі і гігіены?

Я вось часам думаю — што трэба ведаць чалавеку, якога мы можам лічыць сёння культурным? Кожны спецыяліст, безумоўна, будзе ў першую чаргу гаварыць за сваю галіну ведаў — тут і эстэтыка, і логіка, і псіхалогія, і асновы жыцця грамадства і прыроды... Настойлівы голас нашай грамадскасці пакрысе не-не ды і дапаўняе абавязковую праграму школьных падручнікаў і курсаў у інстытутах прадметамі, у якіх хтосьці праявіў гарачую зацікаўленасць. І ў багаж абавязковых ведаў чалавека паступова трапляе вельмі многа нова-га. Акрамя аднаго: ведаў аб сваім арганізме, аб сваім здароўі.

Скажуць: а ў школах жа выкладаецца анатомія! Тут я магу адказаць адным, магчыма, крыху грубаватым, затое дакладным параўнаннем: ведаць з чаго складаецца машына, гэта яшчэ не значыць умець кіраваць ёю. А чалавек павінен умець кіраваць сваім арганізмам, разумець і адчуваць яго, павінен быць у некаторай ступені медыкам для самога сябе і культурным (асабліва падкрэсліваю — культурным) медыкам у адносінах да сваіх дзяцей.

Вось перада мною ў кабінеце стаіць жанчына. На штрыфелі яе жакета блакітны ромбік — адзнака вышэйшай адукацыі. Яна стаіць і горача даказвае, што ў яе сына «цяжкае псіханеўралагічнае захворванне», сыпле, як сапраўдны ўрач, складанымі тэрмінамі, узятымі з медыцынскіх даведнікаў, напэўна, паўгадзіны назад, і патрабуе, каб двухгадовага хлопчыка (дарэчы, зусім здаровага, толькі распешчанага) неадкладна паклалі ў бальніцу.

Я ведаю гэтую жанчыну і яе мужа, ведаю хлопчыка ледзь не з першага дня нараджэння. Далі-бог, калі б спецыяльна хацелі людзі зрабіць усё, каб сапсаваць здароўе дзіцяці, яны лепш бы з гэтым не справіліся, чым знаёмыя мне бацькі. Пачалося з таго, што самыя элементарныя правілы догляду дзіцяці былі для іх свайго роду кітайскай граматай. А потым недзе штосьці пачыталі, штосьці праслухалі, і пачалася «самадзейнасць»...

Калі б у мяне было такое права, я не выдаваў бы маладым людзям пасведчання аб шлюбе, пакуль яны не праслухаюць спецыяльны кароткі курс лекцый на медыцынскія тэмы і не здадуць экзамену! Такая мера неабходна і па многіх іншых, чыста медыцынскіх патрабаваннях. Бо няма чаго падрабляцца пад страусаў і сарамліва не бачыць, што вядзе за сабою невуцтва, бескультур'е, і я б сказаў, часам нават варварства ў пытаннях сямейнага жыцця, колькі прыносіць хвароб людзям, асабліва жанчынам.

Гэта першае, з чаго можна пачаць хоць сёння. Другое — справа больш складаная і рабіць яе нельга паспешліва. Але гаварыць аб ёй неабходна цяпер. Я маю на ўвазе істотныя змены ў выкладанні анатоміі ў школах. Трэба зрабіць гэты прадмет, калі можна так сказаць, больш утылітарным, чым пазнавальным. Трэба, каб анатомія школа ўзбройвала вучняў для барацьбы за здароўе.

Дарэчы, школа пакуль што наогул вельмі пасіўна ўдзельнічае ў гэтай барацьбе. Возьмем хоць бы пытанні санітарна-гігіенічнага рэжыму школьных памяшканняў. Колькі разоў гаварылася аб цёмнай афарбоўцы парт, нездавальняючым паветраным рэжыме ў класах і калідорах, нарэшце, аб саміх партах. Падлічыце, колькі дзяцей сядзяць на партах, якія не адпавядаюць іх узросту, колькі разоў і медыкі, і самі педагогі ўзнімалі пытанне аб тым, што гэта дрэнна ўплывае на постаць нашых дзяцей, колькі разоў гаварылася, але... Нават пасля спецыяльнай сесіі Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных, прысвечанай гэтаму пытанню — мне давялося ўдзельнічаць у ёй як урачу і як дэпутату — нават пасля гэтай сесіі мала што змянілася ў школах.

Хочацца сказаць некалькі слоў аб кірунку нашай санітарна-медыцынскай асветнай работы ці прапаганды. Вельмі ўжо многа ў нас — і ў лекцыях асобных урачоў, і ў іх выступленнях у друку, па радыё, і ў шматлікіх папулярных брашурах на медыцынскія тэмы — вельмі ўжо многа ўвагі аддаецца апісанням усіх прыкмет той ці іншай хваробы, усіх яе сімптомаў. І ёсць людзі — гэта мноствам прыкладаў могуць пацвердзіць, прынамсі, псіхіятры, — якія, начытаўшыся і наслухаўшыся, старанна шукаюць потым у сябе самае неверагоднае захворванне.

Мне здаецца, што ўся асветная работа ў галіне медыцыны павінна больш ісці па лініі выхавання **культуры здароўя**, культуры гігіены чалавека, адным словам, па прынцыпу «папярэджваючы — лячыць».

Мне застаецца яшчэ нейкім чынам апраўдаць сваё жаданне выступіць па ўсіх гэтых пытаннях іменна ў газеце «Літаратура і мастацтва». Па-першае, здароўе — гэта такая рэч, якая мае дачыненне да ўсіх людзей, і работнікі творчай працы, вядома, не з'яўляюцца выключэннем. Па-другое, я глыбока ўпэўнены, што думка і ўплыў той часткі нашай грамадскасці, якая працуе ў галіне культуры і мастацтва — вельмі моцная сіла; і ўпусціць магчымасць зацікавіць яе пытаннямі, якія хвалююць мяне як урача, як чалавека, як бацьку і, нарэшце, як дэпутата гарадскога Савета, упусціць такую магчымасць было б недаравальна. Асабліва гэта датычыць тых пытанняў, якія маюць непасрэднае дачыненне да школы, да дзяцей. Іх здароўе — гэта здароўе будучага грамадства, якому належыць стварыць новага чалавека, сапраўды прыгожага душою і целам.

## АБЛАСНАЯ НАРОДНАЯ ФІЛАРМОНІЯ

У Мінску арганізавана абласная народная філармонія. Створан яе мастацкі савет. Філармонія будзе весці прапаганду сярод шырокіх мас працоўных твораў айчыннай і зарубежнай музычнай класікі, рускіх і беларускіх савецкіх кампазітараў, харавога, інструментальнага, вакальнага і харэаграфічнага мастацтва, папулярызаваць лепшыя самадзейныя калектывы і выканаўцаў.

Удзельнікамі філармоніі з'яўяцца калектывы мастацкай самадзейнасці і асобныя выканаўцы Мінска і вобласці.

Мастацкі савет стварыў таксама арганізацыйна-канцэртны, лекцыйны, вучэбна-метадычны і мастацка-рэпертуарны аддзелы. У іх рабоце на грамадскіх асновах прымуць удзел кампазітары, музыказнаўцы, майстры сцэны, спецыялісты вышэйшых і сярэдніх мастацкіх устаноў.

БЕЛТА.

## СЛОЎНІК ІМЁНАЎ

Слоўнік асабістых імёнаў упершыню ў Беларусі склаў кандыдат філалагічных навук М. Р. Суднік. Ён дае поўны пералік мужчынскіх і жаночых імёнаў, якія шырока бытуюць сярод беларускага народа.

На працягу больш двух гадоў М. Р. Суднік прагледзеў звыш ста тысяч картак усесаюзнага перапісу насельніцтва, больш чым 50 тысяч імёнаў у выбарчых спісах, розныя літаратурныя і гістарычныя матэрыялы, старадаўнія і сучасныя календары.

У слоўнік увайшлі дзве тысячы імёнаў, а таксама спіс устарэлых, амаль не ўжываемых імёнаў.



НА ТРЭНІРОЎКУ.

Фотаэцюд В. БАРАНОЎСКАГА.

Хаім МАЛЬЦІНСКІ

## Скарбы шчодрых глыбінь

Паэт Х. Мальцінскі нядаўна пабываў у шахцёраў Салігорска. У выніку гэтай паездкі з'явіўся паэтычны рэпартаж, два раздзелы з якога мы змяшчаем ніжэй.

Ты ці чуў! —  
Салігорск.  
Мчыць жалезная клець —  
Я лячу пад зямлю,  
Лямпу моўчкі тулю.  
Лямпа тлее ледзь-ледзь.  
І са мной беларусы-шахцёры.  
Я лячу да стагоддзяў,  
Што застылі навек.  
Шум стаіць у вушах —  
Не выходзіць.  
Быццам хвалі шумяць  
на прасторы,  
Быццам хто мне да вуха прыклаў  
Ракавіну марскую.  
Я імчу,  
я лячу,  
Мігацяць уваччу  
бэлькі,  
рэйкі,  
прыступкі.  
Праз хвіліну якую  
Клець у дол глуха стукае.  
Дзень так метраў пяцьсот  
Нада мною ўгары.  
З клеці ў шахту выходжу.  
Лямпа зырка гарыць.

* * *

Асвятляе дарогу ліхтар.  
Я іду,  
усіх дзіў валадар.  
Гэта ж вечнасць глядзіць  
на мяне.  
Я чакаю,  
што мора ўздыхне.  
Як заціхлыя хвалі,  
пласты.  
Захад сонца  
у іх застыў.  
Сільвініт — зыркіх іскраў мільён.  
Як распалены захад, ён.  
Сінявата-чырвоны агонь —  
Не атушыш нічым яго.  
На зямлі нада мною дзень  
З ліхтаром —  
з ясным сонцам ідзе.  
Галава мая поўна дум.  
Я з шахцёркай па моры іду.  
Мора калісь не знала тугі,  
Хваляй білася ў берагі.  
З сонцам бавілася яно.  
Зараз мора — прыціхлае дно.  
Стала соллю, сільвінам;  
зірні —  
Гэта водсвет марской глыбіні.  
Сонцам свецяцца крышталі,  
Ткні цыгарку — яна засмыліць.  
І застылае мора на смак  
Я каштую.  
Вандроўнік-дзівак.  
Сэнс жыцця я адчуў,  
сам не свой.  
Салігорск!  
Ганаруся табой.  
Паглядзіце  
пласты зіхацяць.  
Я у вечнасці  
у гасцях.

Пераклад з яўрэйскай мовы Р. БАРАДУЛІНА.

## Парад кветак

Вялізная амаль белая вяргіня. Толькі каля самага бутона пялёсткі афарбаваны ў бледна-жоўты колер. Ад кветкі вее свежасцю. Такіх вяргінь яшчэ не прыходзілася бачыць. Гэта новы гатунак. Яго вывеў сёлета мінскі кветкавод-аматар А. Чыкаў метадам вегетацыйнай гібрыдызацыі. Кветцы А. Чыкаў даў назву «Касманаўт». Гэтую вяргіню, як і многія іншыя кветкі, мінчане ўбачылі днямі на традыцыйнай выстаўцы кветак, якая адкрылася ў гарадскім Палацы спорту.

У выстаўцы ўдзельнічаюць Цэнтральны батанічны сад Акадэміі навук БССР, абласная станцыя юных натуралістаў, сярэдняя школа № 47, жыхары дома № 11 па вуліцы Грушаўскай, кветкаводы-аматары. Яны прадставілі на агляд дзесяткі гатункаў флоксаў, ружаў, вяргінь, бегоній, гладыёлусаў, якія былі выведзены імі за апошнія гады. Было што паказаць работнікам Цэнтральнага батанічнага саду АН БССР. Імі вырашчана каля 600 гатункаў руж, 500 гатункаў гладыёлусаў, 150 — флоксаў.

Заслугоўвае ўвагі стэнд жыхароў дома № 11 па вуліцы Грушаўскай. Інжынер М. Чычанкоў, хатняя гаспадыня М. Краўцова, бухгалтар І. Кірылаў, 76-гадовая Л. Сцяпанава і іншыя прыклалі нямала намаганняў, кабператварыць двор каля дома ў сапраўдны кветнік.

Абласная станцыя юных натуралістаў акрамя кветак экспанавала букеты. Большасць з іх падабраны з вялікім густам. Юныя натуралісты далі ім трапныя назвы «Подых лесу», «Памяці юнага героя», «Мілым малышам», «Каханаму» і іншыя.

Многа кветак прадставілі кветкаводы-аматары Н. Пятрушкіна, Я. Сяргеевіч, В. Ракаўчук, М. Гусеў і іншыя. Выведзеныя гатункі яны назвалі: «Мір», «Шчасце», «Дружба», «Прыгажосць». Так, гэта сапраўды выстаўка харавства і прыгажосці.



У ЗАЛЕ ВЫСТАЎКІ.

Фота М. Рубінштэйна.

## АГІТБРЫГАДА ПРЫБЫЛА Ў ПОЛЕ...

«Пашана людзям роднага краю, што ўсе сілы аддаюць на ўборцы ўраджаю» — так назвала сваю новую канцэртную праграму агітбрыгада сельскага Дома культуры палескага сяла Рэчыца Столінскага раёна. З канцэртамі члены брыгады выязджаюць у гэтыя дні ў поле, на такі.

Прыемна было камбайнеру Міхаілу Столбе пачуць пра сябе частушкі ў выкананні Аўгінні Язубец і Сцепаніды Літвінка. Частушкі гэтыя з'явіліся невыпадкова: толькі на працягу першага тыдня камбайнер убраў сваім агрэгатам 130 гектараў азімых.

Куды б ні прыбывала агітбрыгада, члены яе стараюцца папоўніць свой рэпертуар мясцовымі фактамі, адзначыць перадавікоў, востра пакрытыкаваць недахопы. Калгаснікі горача апладзіруюць дабрадушным частушкам і вострым інтэрмедыям, задушэўным песням і заліхвацкім танцам.

Удзельнікі самадзейнага калектыву не абмяжоўваюць сваю дзейнасць аднымі канцэртамі. Агітатары звычайна тут жа на месцы выпускаюць «Баявы лісток», настаўніца Марыя Андрэеўна Прылуцкая правяла гутаркі «Нашы рэзервы павышэння прадукцыйнасці працы», «Убраў ураджай своечасова — выйграў...»

За час уборкі члены брыгады пабывалі ва ўсіх паляводчых брыгадах свайго калгаса «Сцяг перамогі», па просьбе суседзяў выязджалі ў сельгасарцелі «Першае мая», імя XXII з'езда КПСС.

БЕЛТА.

## З ЛЕПШЫХ РАБОТ

Магілёўскі абласны Дом народнай творчасці з лепшых работ мясцовых майстроў жывапісу і прыкладнога мастацтва стварыў вялікую перасоўную выстаўку. З новага навучальнага года яна будзе шырока выкарыстоўвацца на занятках у народных універсітэтах, на прамысловых прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах вобласці і суправаджацца лекцыямі мастакоў.

У экспазіцыю ўключаны індустрыяльныя пейзажы мастака П. Сітнікава, эцюды на сельскагаспадарчую тэматыку А. Шкляра, пейзажы Н. Федарэнкі і Р. Карповіча.

На выстаўцы прадстаўлены творы многіх мастакоў Бабруйска, а таксама лепшыя вырабы ўмелых рукадзельніц — абрусы, ручнікі, пакрывалы, блузкі, расшытыя жаночыя і мужчынскія касцюмы.

БЕЛТА.

## ВЕЧАР КНІГІ

Нядаўна ў гарадскім пасёлку Акцябрскі Гомельскай вобласці паявілася аб'ява: «Сёння ў раённым Доме культуры адбудзецца вечар кнігі». Аб'ява прыцягнула ўвагу жыхароў.

Увечары пасля працоўнага дня глядзельная зала Дома культуры была поўна. З дакладамі аб значэнні кнігі ў жыцці чалавека, аб гісторыі і развіцці кнігавыдавецтва ў нашай краіне выступілі сакратар райкома ЛКСМБ т. Галіноўскі, выкладчык літаратуры Валосавіцкай сярэдняй школы т. Корзун, загадчык раённага аддзела культуры т. Руцькоў. Затым адбылася літаратурная віктарына.

Удзельнікі вечара набылі новыя кнігі ў кіёску, які працаваў у фае Дома культуры.

І. ГУРЭВІЧ.

## КАБ ДУША ГАРНУЛАСЯ ДА ПРЫГОЖАГА

Мы яшчэ дрэнна выхоўваем у нашых дзяцей пачуццё прыгожага, любоў да навакольнай прыроды, да розных жыццёвых рэчаў і, нарэшце, любоў да мастацтва.

А хто, як не школьны настаўнік, павінен у першую чаргу клапаціцца аб выхаванні сапраўднага мастацкага густу ў сваіх вучняў, разумення імі прыгажосці жыцця?

І калі школа навучыць кожнага маленькага грамадзяніна захапляцца глыбінёй блакітнага неба, доўга не адыходзіць ад «Вячэрняга звону» Левітана і з затоеным дыханнем і хваляваннем услухоўвацца ў цудоўныя гукі «Пятай сімфоніі» Чайкоўскага, тады не будзе ў нас «адукаваных» дзікуноў, што топчуць кветкі, нявечаць дрэўцы.

Жыццё прымушае нас з усёй сур'ёзнасцю ставіцца да эстэтычнага выхавання ў школе. Што ўжо зроблена для паляпшэння яго? У праграмы 5—7 класаў уключаны ўрокі малявання і спеваў. Па гэтых прадметах у Мінскай вобласці наладжана сталая метадычная работа. Пры Абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў адзін раз у паўгода склікаюцца семінары кіраўнікоў раённых секцый выкладчыкаў спеваў, разам з якімі складаецца, а потым падрабязна абмяркоўваецца каляндарны план па кожнаму класу. Асабліва значную карысць ад такіх семінараў маюць настаўнікі пачатковых класаў.

У нашым раёне большасць выкладчыкаў спеваў цяпер ужо авалодала элементарнай музычнай граматай. Яны развучваюць з дзецьмі іменна тыя песні, якія прадугледжаны школьнай праграмай і з якімі давялося пазнаёміцца на творчых семінарах.

Такая метадычная работа вельмі патрэбная. І таму зусім незразумела, чаму раптам у мінулым годзе Міністэрства асветы БССР вырашыла скараціць адзінку метадыста па спевах пры Інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. На нашу думку, не варта было гэтага рабіць. Бо метадыст кіраваў усімі заняткамі на настаўніцкіх семінарах, арганізоўваў абмен вопытам паміж кіраўнікамі секцый.

Зроблена яшчэ вельмі мала ў параўнанні з тым, што трэба зрабіць. І ў першую чаргу не створаны ўмовы для працы выкладчыкаў мастацтва. Выкладчык спеваў ці малявання чамусьці атрымоўвае меншую зарплату, чым выкладчыкі іншых дысцыплін. Таму часам спецыялісты пакідаюць школу і шукаюць іншага месца, дзе яны могуць быць лепш забяспечаны. Так, прыехаў у нашу школу выкладчык малявання Шрамякоў. Ён здолеў добра наладзіць справу. Але потым, з прычыны нізкай аплаты працы, палічыў за лепшае ўладкавацца на работу ў клуб.

Далей. Пара, відаць, дабіцца таго, каб спевы і маляванне выкладалі толькі спецыялісты. А то вось і ў нашай школе настаўніца, не маючы спецыяльнай адукацыі, вучыць дзяцей маляваць. Замест таго, каб вучыць іх разумець і адчуваць прыгажосць формы і колеру, яна прымушае зубрыць план-схему малюнка, пра які сама недзе нешта чытала.

Не забяспечваюцца школы метадычнымі і нагляднымі дапаможнікамі па мастацкіх прадметах. У нашай школе няма і мінімуму музычнага матэрыялу, які патрабуецца праграмай. Між тым, у магазінах Мінска іншы раз можна яго знайсці, але бухгалтэрыя Уздзенскага раёна не згаджаецца аплачваць рахункі. Не лепш справы і з набыццём мастацкіх рэпрадукцый. Купілі мы неяк выпадкова першы выпуск «Школьнай выстаўкі» (выдавецтва РСФСР). Але ў камплект уваходзіла толькі нязначная частка з таго, што патрэбна ў дапамогу настаўніку на ўроках малявання. Чаму б Беларускаму вучэбна-педагагічнаму выдавецтву не выпусціць спецыяльныя камплекты мастацкіх рэпрадукцый для агульнаадукацыйных школ? Якая гэта была б карысць! Або вазьміце нотныя сшыткі. Тыя, што прадаюцца цяпер у магазінах, прыгодныя толькі музыкантам. Вучню ж першага ці другога класаў пісаць у іх цяжка — патрэбны сшыткі з больш шырокімі нотнымі станамі. Аднак у рэспубліцы іх чамусьці не выпускаюць.

Часта ў школы прыходзяць навукова-папулярныя фільмы, і хоць бы адзін з іх быў па музыцы ці выяўленчаму мастацтву. Проста дзіўна: няўжо нашым кінастудыям так цяжка стварыць серыю фільмаў па творах, якія захоўваюцца ў Траццякоўцы, Эрмітажы і іншых мастацкіх музеях і галерэях? А якую б вялікую ролю адыгралі гэтыя фільмы ў школьнай практыцы!

Эстэтычнае выхаванне павінна распаўсюджвацца і на хатні быт вучняў. Бо дрэнны мастацкі густ школьнікаў часта з'яўляецца вынікам іменна мяшчанскага быту. Мне прыходзілася бываць дома ў многіх вучняў. І амаль у кожнай хаце я бачыў папяровыя дываны з замурзанымі «прыгажунямі», палацамі, лебедзямі, безгустоўныя вышыўкі на падушках і канапах. Школа павінна змагацца супраць гэтай уяўнай прыгажосці, растлумачваць сваім выхаванцам, што не гэта сапраўднае мастацтва. Дарэчы, пры нашай школе створаны і паспяхова працуе бацькоўскі універсітэт культуры, у якім чытаюцца лекцыі па пытаннях мастацкага выхавання і быту вучняў. Гэта ўжо нейкі крок наперад у прапагандзе эстэтычных ведаў і сярод бацькоў.

Калі ў школах будуць створаны ўмовы для эстэтычнага выхавання, калі за гэтую важную справу, па-сапраўднаму возьмецца ўся грамадскасць, нам, настаўнікам, будзе лягчэй рыхтаваць усебакова адукаваных юнакоў і дзяўчат, якім давядзецца будаваць камунізм.

Я. ЧАРЭНДА, выкладчык Уздзенскай сярэдняй школы № 1.

**Слова пра малодшага сябра... Шчырае, прынцыповае, бацькоўскае слова старэйшага вопытнага майстра пра творчасць маладога калегі па прафесіі, які робіць першыя крокі ў мастацтве, — гэта так патрэбна і важна. Мы звярнуліся да раду майстроў жывапісу і скульптуры, тэатра і музыкі, да дзеячоў усіх галін мастацтва з просьбай выказаць на старонках нашай газеты свае меркаванні і думкі аб маладой творчай змене, пагаварыць пра яе пошукі, зрабіць заўвагі і пажаданні на будучае.**

**Сёння народны мастак БССР Заір Азгур расказвае аб творчасці маладога скульптара Валянціны Міхеевай.**

# ТАЛЕНТ — ПРАЦАВІТАСЦЬ — НАСТОЙЛІВАСЦЬ

**Заір АЗГУР,**
**народны мастак БССР**

**Слова пра малодшага сябра**

Калі будучыня мастака ляжыць, як кажуць, на далоні, — ён становіцца нецікавым. Было б наогул сумна, калі б мы загадзя маглі прадказваць будучае творчасці. І ўсё ж, прасочваючы шлях маладога скульптара, хоць бы ў агульных абрысах зазірнуць у яго заўтрашні дзень — можна, цікава і карысна. Іменна з гэтых пазіцый мне хочацца расказаць аб творчасці маладога, настойлівага і працавітага скульптара Валянціны Міхеевай. Зусім нядаўна яна скончыла Маскоўскі інстытут прамысловага і дэкаратыўнага мастацтва. Вучылася ў скульптара К. Белашовай. Слухала лекцыі многіх выдатных майстроў сучаснага мастацтва. Давялося ёй пазнаёміцца і з творчасцю цікавых мастакоў, убачыць іх работы, наведаць майстэрні. Усё гэта памагло В. Міхеевай самой зрабіць першыя самастойныя крокі ў мастацтве.

Першыя крокі... Яны не адразу прыкметныя. Інстытут, як паказала жыццё, дае толькі агульную адукацыю, толькі агульныя навыкі прафесіі, асабліва па спецыяльнасці скульптара. Набытых ведаў для стварэння форм, якія нясуць у сабе змест жыцця, — далёка недастаткова. Яны толькі набліжаюць да выканання задачы — **як рабіць.** Праблему ж, **што і як рабіць,** скульптар вырашае ўсё жыццё. Моладзь у гэтым сэнсе больш рухавая, яна больш захапляецца, шукае, фантазіруе. І на шляху пошукаў мацней адчувае розныя ўплывы. Але жыццё складанае. Неабходна пастаянна і ўпарта развіваць майстэрства, каб пранікнуць у законы гармоніі рэчаіснасці і навучыцца іх перадаваць па-свойму, уласным «голасам». Здаецца, Міхеева разумее гэта, разумее ўсю складанасць творчага мыслення і стварэння вобразаў у пластыцы. Іменна гэта разуменне абудзіла ў ёй цікавасць да матэрыялу. Яна пачала рабіць свае скульптуры ў маёліцы і камені, мармуры і тэракоце, адліваць іх у метале. А работа ў матэрыяле заўсёды пакідае глыбокі след. Скульптар узбагачаецца каштоўным вопытам, пачынае марудна, але верна ўваходзіць у сэнс самой скульптуры, у яе змест.

Я са здавальненнем сачу, як Міхеева, з'яўляючыся рэалістам па перакананнях, асэнсоўвае і шукае ў матэрыяле формы для ўвасаблення сваіх задум. Не парушаючы структуры жывога жыцця, любячы ўсе яго дэталі, яна шукае прынцыпы падачы, якія б адпавядалі выбранаму матэрыялу, імкнецца да таго, каб гэтыя прынцыпы памаглі ёй перадаць бачанае, зрабіць больш прыкметным тое, што было ўжо відно ў прамежкавых матэрыялах — гліне і гіпсе. І маладому скульптару гэта ў многім удаецца. Шлях яе, мне здаецца, верны. Думае яна цікава. Упарта, павольна, але верна ідзе да мэты.

Больш за ўсё ўвагі Валянціна Міхеева аддае скульптурнаму партрэту — жанру цяжкаму і незвычайна захапляючаму. Магчыма таму, што гэта і мая любімая галіна творчасці, мне імпануюць задачы, якія ставіць перад сабой малады калега.

З ранніх яе работ найбольш выразнымі былі «Бураціна на чарапасе» (рэпрадуктавалася на Кжэльскім керамічным заводзе), кампазіцыя «Мацярынства» і трохфігурная кампазіцыя «Дружба народаў». Праўда, творы гэтыя яшчэ вельмі нясмелыя, у іх вельмі многа няяснага. Прычым, гэта датычыць больш за ўсё мастацкай трактоўкі, самой будовы формы. Але праца над кампазіцыяй незвычайна захапляючая, і яна паглынае скульптара да самазабыцця. Неяк Міхеева прызналася: «Мяне непакоіць тое, што не атрымліваецца, і я гатова бясконца ўсё ламаць, пакуль не выйдзе так, як я бачу і хачу».

Гэта вельмі добра, калі мастак, нягледзячы на няўдачы, не траціць надзеі, а становіцца яшчэ больш настойлівым. Я памятаю, як засмучалася яна няўдачай адной з першых сваіх партрэтных кампазіцый — «Макаранка з дзецьмі». Трохфігурная кампазіцыя наогул вельмі складаная рэч. Для таго, каб зрабіць партрэт самога Макаранкі і вобразы дзяцей, патрэбен вялікі вопыт. А Міхеевай яго не хапіла. Няўдачы — тая ж вучоба, магчыма, часам больш дзейсная, чым поспехі. Але чаму ж не ўдалася Міхеевай названая работа? Таму, што кампазіцыйны прынцып быў камерны, усё ў скульптуры было дробным, пачынаючы ад задумы і канчаючы формай.

Скульптар зразумела гэта і працягвала з падвоенай энергіяй ствараць іншыя партрэты. Набыты вопыт прынёс ёй поўную ўдачу—партрэт Веры Харужай. Я сам працаваў над партрэтам Харужай. У мяне зусім іншая трактоўка вобраза. Але гэта не перашкаджае мне бачыць поспех маладога мастака. У яе творы ёсць і характар, і прастата, уласцівая народнай гераіні. У гэта не адразу пранікаеш, але, углядаючыся, бачыш — шмат думак і працы каштавала Міхеевай стварыць партрэт Веры Харужай.

У Міхеевай многа работ, зробленых у першыя гады пасля заканчэння інстытута. Яна бралася то за дзіцячыя цацкі, то за дэкаратыўныя вазы, пачынала адначасова працаваць над некалькімі кампазіцыямі. Гэта зразумела. Пасля вучобы скульптару хацелася ахапіць літаральна ўсё, што трапляла ў яе поле зроку. Але ж адразу ўсяго не зробіш. Таму не выпадкова, што з мноства работ, выкананых раней, толькі невялікі партрэт Веры Харужай, аб якім гаварылася вышэй, пакідае ўражанне. Гэта думка не толькі мая, але і іншых мастакоў-прафесіяналаў і гледачоў. Добра, што Міхеева адмовілася ад гэтай уяўнай актыўнасці і пачала працаваць больш стрымана і грунтоўна, аб чым сведчаць цікавыя па задуме партрэты Галі Дакутовіч і Алены Стампкоўскай.

Захапленне партрэтам і ў першую чаргу партрэтам чалавека, які здзейсніў грамадзянскі подзвіг, прымушае Міхееву ўдумліва працаваць над псіхалогіяй, шукаць характар, бачыць розніцу паміж вонкавай і ўнутранай выразнасцю. Праўда, у партрэтах Дакутовіч і Стампкоўскай яшчэ вельмі нясмелая лепка. У іх многа сырога і недапрацаванага. Але абедзве работы—бясспрэчны крок уперад у разуменні ўнутранага строю скульптурнага партрэта. Яны прыцягваюць да сябе ўвагу, прымушаюць гледача спыніцца ў роздуме.

Складаная рэч — пошукі, а без іх няма творчасці. Тое і глядзі, што на дарозе паяўляюцца спакусы пераймання. На маладога скульптара дзейнічаюць новыя павевы, робяць уплыў размовы адносна таго, што ў жыцці шмат аналітычнага і што ад гэтага трэба пазбаўляцца. Захапіўшыся абагульненнем формы, Міхеева часам не-не ды і заглядваецца на зробленае іншымі майстрамі, як быццам забываецца, што і абагульненне трэба ўбачыць у самім жыцці, бо калі яно ідзе звонку, а не ад унутранага асэнсавання ўбачанага, яно выглядае неарганічным, мяжуе з выпустошваннем жывой дзеючай формы.

Скульптару трэба ведаць перспектыву, таму што без разумення трохмернасці свету, яго глыбіні, вышыні і шырыні немагчыма ўспрыняць жыццё такім, якое яно ёсць. Толькі на аснове гэтых ведаў суб'ектыўнае ўспрыманне і індывідуальныя адносіны мастака стануць каштоўнымі і неабходнымі для гледача. Толькі тады мастак зразумее, што манументальнасць і сапраўдная прыгажосць існуюць ужо ў самім жыцці. Ён і называецца мастаком таму, што бачыць прыгожае і здольны яго выявіць.

І мне ўяўляецца, што цяпер, пасля працяглага роздуму і пошукаў, Міхеева пачынае ўжо разумець, што сам вобразны лад яе мыслення і матэрыял павінны падказваць ступень абагульнення форм. Яна спрабуе рабіць партрэты ў новых для яе матэрыялах, спрабуе выявіць магчымасці маёлікі, шукае ў метале тыя сродкі, якія памаглі б ёй перадаць уласнае бачанне жыцця. І найбольш блізкай да ўдалага вырашэння мастацкай задачы з'яўляецца партрэт Альберта Эйнштэйна. Партрэт выдатнага вучонага зроблен з вялікай цеплынёй. Нягледзячы на адсутнасць вопыту і недастатковую філасофскую глыбіню мыслення, якія неабходны мастаку для таго, каб паказаць такога волата навукі, работа ўсё ж атрымалася змястоўнай. Скульптар, як кажуць, «сэрцам дайшла» да сутнасці вобраза. Эйнштэйн яе не толькі падобны знешне. Міхеевай удалося зазірнуць і ва ўнутраны свет вучонага. Мне здаецца, што ў гэтым творы, як і ў партрэце Фені Кананавай і партрэце «Мінчаніна», намячаецца індывідуальная лінія партрэтыста.

«Мінчанін» зроблен у мармуры. Гэта — ужо сур'ёзная спроба раскрыць псіхалагічны стан чалавека, пераход ад проста партрэта з натуры да самага галоўнага — выяўлення ўнутранага свету героя праз кампазіцыйнае рашэнне кавалка мармуру. Скульптура знаходзіцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР. Хочацца адзначыць і другую працу, якую набыў музей, — партрэт вядомага будаўніка Аркадзя Дзігілевіча, выкананы ў граніце. Удала скампанаваная галава, упэўнены выраз твару чалавека, які ведае сваю справу, робяць станоўчае ўражанне.

Але найбольш цікавым з апошніх работ Міхеевай у матэрыяле з'яўляецца партрэт фізкультурніцы Марыі Іткінай. Зроблены ў вельмі цвёрдым матэрыяле — парфірным граніце, прычым паліраваным, што падкрэсліла вельмі ўдала знойдзеную форму, добрую абагуленасць—гэты партрэт я лічу вялікай удачай мастака. Ён сучасны ў добрым сэнсе гэтага слова.

Міхеева шукае свой почырк, свае адносіны да чалавека. Нястомныя пошукі натуры, ды іменна такой, якая ўжо мае сваю працоўную біяграфію, і з'яўляюцца крыніцай яе натхнення. Скульптар, захопленая работай над партрэтам Героя Сацыялістычнай Працы Віташкевіча, неяк гаварыла мне: «Мне нецікава ляпіць чалавека наогул. Быццам натуршчыка лепіш. А вось чалавека, які штосьці зрабіў, — яго паказаць у матэрыяле цяжка, але цікава».

І тут мне хочацца «ўчапіцца» за гэтае «цікава» і вярнуцца да таго, з чаго пачаў, — з захопленасці і вялікай упартасці маладога скульптара. Захапленне



кліча яе на ўсё новыя пошукі і, дзякуючы сваёй упартасці і працаздольнасці, яна працуе вельмі многа. Але, акрамя гэтых якасцей, мастаку неабходна яшчэ ўменне абмяжоўваць сябе, канцэнтраваць сваю ўвагу на галоўным. Міхеева — партрэтыст. Гэта мае глыбокае перакананне. І калі яна бярэцца за вялікія кампазіцыі, захапляецца памерамі, хочацца перасцерагчы яе ад неэканомнага выдаткавання сваіх творчых сіл. Вось нядаўна адлілі з бетону яе вялікую двухфігурную кампазіцыю «Мацярынства». Шмат працы ўклала ў яе Міхеева. Але скульптура, на жаль, не ўдалася, бо мала адных імкненняў да вялікіх тэм. Складаная, спрадвечная тэма мацярынства, якая ва ўсе часы хвалявала мастакоў, патрабавала свайго, сучаснага, глыбока філасофскага эстэтычнага асэнсавання. Акрамя таго, нельга пагарджаць веданнем анатоміі чалавека — ні за кошт абагульненняў, ні за кошт задумы. Няўвага да анатоміі вядзе да невыразнасці. А гэта тым больш прыкметна, калі твор вырашаецца ў вялікіх памерах. Вялікія памеры патрабуюць асабліва строгую, прадуманую, добра архітэктанічна пабудаваную форму, што дасягаецца не адным жаданнем, а і ўменнем і вопытам. Манументальнасць, да якой імкнулася аўтар, — не проста вялікія габарыты, а асаблівая і цяжкая пластычная мова.

Недастатковае авалоданне гэтай мовай, неглыбокае філасофскае асэнсаванне тэмы прывялі і да другой няўдачы, калі Міхеева спрабавала стварыць манументальны партрэт «Ленін—правадыр». Скульптар не знайшла пластычных формаў для гэтай тэмы, формаў, якія былі б у характары Ільіча. Атрымаўся проста радавы партрэт.

Прычына гэтых і некаторых іншых няўдач Валянціны Міхеевай — паспешлівасць, уласцівая многім маладым мастакам. Ім хочацца хутчэй убачыць вынік. І таму яны заўчасна заканчваюць незакончанае.

Высокае майстэрства даецца не адразу. І даецца яно тым, хто не толькі таленавіты, але і працавіты і ўпарты. Гэта — абавязковыя якасці мастака, і Валянціна Міхеева адорана імі. Іменна яны — гэтыя каштоўныя ў маладога скульптара якасці — залог паспяховых рашэнняў, якіх, я веру, будзе многа ў майго малодшага калегі, скульптара Валянціны Міхеевай. Яна выбрала ў жыцці нялёгкі, але прыгожы шлях.

# НАСУСТРАЧ ЧЫТАЧУ

Ёсць у Гарадку дзве неразлучныя сяброўкі — Ніна Бадзяла і Ніна Арлова. Вялікая любоў да кнігі прывяла іх на работу ў кнігарню.

Абавязкова зайдзіце ў гэтае сапраўднае царства кніг, якое стварылі дзяўчаты. Усё, што вам трэба, знойдзеце ў магазіне. Палітычная літаратура? Калі ласка—выбар вялікі. Кнігі беларускіх мастакоў слова? Падручнікі? Дапаможнікі для працаўнікоў сельскай гаспадаркі? Усё тут ёсць.

Хто, хто, а абедзве Ніны добра ведаюць, што план продажу літаратуры не выканаеш, калі будзеш сядзець у магазіне і чакаць пакупніка. Вось пра пошукі разнастайных форм і метадаў распаўсюджвання кнігі хочацца расказаць больш падрабязна.

У раёне адбываюцца розныя сходы, нарады і канферэнцыі, і там заўсёды адкрываецца кніжны кіёск. Жывёлаводы, медыцынскія работнікі ці настаўнікі знаходзяць для сябе неабходную літаратуру. Заканчвае работу нарада і глядзіш—у кіёску выручка, якую не заўсёды мае магазін за некалькі дзён работы.

— А чаму б нам не выкарыстаць кінатэатр, дзе кожны дзень бывае столькі людзей,—неяк прапанавала дзяўчатам загадчыца магазіна Б. Даўжанская.

Прапанова была слушная. Дамовіліся з дырэктарам кінатэатра, паставілі ў фае шафу з кнігамі. Кожны вечар адна з работніц магазіна прыходзіць за паўгадзіны да пачатку сеанса і прадае кнігі. У нядзелю кіёск у кінатэатры прадае галоўным чынам дзіцячую літаратуру, таму што ідуць сеансы для юных гледачоў.

Арлова і Бадзяла добра ведаюць сваіх актыўных пакупнікоў. Часта бывае ў магазіне выкладчык сельскагаспадарчага тэхнікума В. Шутаў. Яго ўласная бібліятэка налічвае звыш дзвюх тысяч тамоў. Вялікі кнігалюб ніколі не пройдзе міма навінкі. Ён з'яўляецца падпісчыкам на многія выданні. Многа кніг купляе выкладчык тэхнікума тав. Бібіхін, муж і жонка Каратаевы і іншыя. Хутка пасябравалі прадаўшчыцы і з піянерважатай другой сярэдняй школы Майяй Вышэдскай. Аднойчы Ніна Арлова сказала ёй:

— А што калі піянеры стануць кнiганошамі і будуць прадаваць кнігі?..

— Добра. Я пагавару з імі,— паабяцала Майя.

Праз некалькі дзён яна зноў прыйшла ў магазін. І ўжо не адна, а з вучаніцамі шостага класа сёстрамі Людай і Таняй Мананікавымі. Разам з прадаўшчыцамі піянерважатая адабрала кнігі і ўручыла іх дзяўчынкам.

Неўзабаве Майя прынесла ў магазін грошы за прададзеную літаратуру.

А потым дзяўчынкі самі пачалі наведваць магазін. Кнiганошамі сталі Ала Паташанская, Люда Лагвіненка, Таня Шлаганава, Люда Лазоўская і іншыя. Яны бралі кнігі і для сябе і для ўсяго класа. А потым ішлі па вуліцах Гарадка. Маленькія памочніцы сталі нават заказы прыносіць у магазін.

Работніцы прылаўка вырашылі арганізаваць кіёскі на прадпрыемствах і ва ўстановах у дзень атрымання зарплаты. На многія дзесяткі рублёў прадалі кніг у такія дні работніцы магазіна ў райвыканкоме і райспажыўсаюзе, на аўтарамонтным заводзе і ў сельскагаспадарчым тэхнікуме.

Работніцы кнігарні прыйшлі да вываду, што нельга абмяжоўвацца толькі раённым цэнтрам. Хіба на вёсцы мала кнігалюбаў? Першая ж паездка паказала, што справа гэтая варта пашырэння.

Маршрут выбіраецца такі, каб на дарозе абавязкова былі школы. Падручнікі, мастацкая і дзіцячая літаратура, сшыткі ідуць нарасхват. Кіраўнікі райспажыўсаюза ніколі не адмаўляюць у транспарце.

Усё новае, цікавае і карыснае імкнуцца пераняць работнікі Гарадоцкага кніжнага магазіна. І яны сістэматычна перавыконваюць план продажу літаратуры. Так яно і павінна быць у калектыве, які змагаецца за права называцца камуністычным. Работніцы кнігарні вучацца завочна: загадчыца Б. Даўжанская—у інстытуце, Ніна Арлова і Ніна Бадзяла ў мінулым годзе паступілі на першы курс Полацкага кааператыўнага тэхнікума.

**М. ПАХІЛКА.**

Віцебская вобласць.

# КІНАЛЕКТОРЫЙ НА ЗАВОДЗЕ

Кiналекторый аб маральным кодэксе будаўніка камунізма адкрыт на Магілёўскім заводзе штучнага валакна.

Дакладчыкі В. К. Леўчанка, Л. І. Агафонава, З. В. Карандашова прачыталі лекцыі «Добрасумленная праца на карысць грамадства», «Калектывізм і таварыская ўзаемадапамога», «Чалавек чалавеку друг, таварыш і брат». Лекцыі суправаджаліся кінакарцінамі «Юлія Вечарова», «Па пуцёўцы Леніна», «Людзі блакітнага агню».

Лекцыі праводзяцца непасрэдна ў цэхах і карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў рабочых.

( БЕЛТА).

**Іван МЕЛЕЖ**

# КОНЧАНА ЎСЁ ТОЕ...

**Пісьменнік Іван Мележ працуе над новым раманам «Звер сочыць з зарасніку». У ім чытач сустрэнецца з героямі, знаёмымі па раману «Людзі на балоце».**

**Друкуем урывак з новага твора пісьменніка.**

Кожны раз, калі ішлі разам, чула Ганна, што не можа паказаць Парасцы бяду сваю. Не тое што, каб не верыла ёй, але кожны раз чула ўсё ж між сабой і Параскай нейкую мяжу, якую не можна было пераступіць з бядою, не рызыкуючы гонарам. Гонар жа гэты быў трывожны, насцярожаны: усё гатоў быў перацярпець, толькі не сваё прыніжэнне...

Нават у той раз, калі яны былі з Параскаю блізкія, як ніколі, калі Ганна нібы вельмі рашуча адарвала Параску ад мужчын-спадарожнікаў, шчырая гаворка між Ганнай і Параскаю пайшла не адразу. Доўга ішлі моўчкі. Параска не пыталася нічога, нават не глядзела на Ганну, цярпліва чакала гаворкі,—а Ганна слова прамовіць не магла.

Ужо недалёка была цагельня—пад нізкім, хмурным небам дрэвы тырчалі таксама хмурныя, голыя. Невясёла сівела грэбля, схаладнела, нярадасна туліўся чэзлы алешнік і беразняк абапал. Такая нярадасць, пастыласць была ўсюды. Так цяжка было пачаць, расшчапіць сціснутыя бядою губы, узяць з душы, з болю, з палу, якім гарэла ўсё ў сярэдзіне, словы. Выціснула глуха, хрыпата, з адчаем, з рашучасцю:

— Не магу болей!..

Параска толькі зірнула пільным, шчырым позіркам. Нібы мерала глыбіню.

— Жыць не хочу!

Хоць не глядзела на Параску, заўважыла, як трывога, спачуванне хмаркай прайшлі па яе твары. У грудзях запякло яшчэ мацней.

— Бы звяры! Поедам ядзяць!..

Ад таго, што ў сярэдзіне так пякло, гаварыць было цяжка. Словы то нібы прарываліся, то застравалі ў горле.

— Думала ўсё — перацярплю!.. Не магу!.. Няма маёй сілы!..

Трохі ішлі моўчкі. Парасчына рука лагодна, чула лягла на Ганніна плячо. Ішлі ўжо як сяброўкі.

— А нашто — цярпець? — сказала Параска. — Ён — любіць?

— Любіць! — Ганніны губы злосна скрывіліся. — Любіць!.. Як грушу! Вытрасе скора душу!

Зноў ішлі моўчкі. Ганна глядзела нязводна кудысьці наперад, але не бачыла нічога. Вочы былі сухія, гарачыя.

— Дык чаго ж ты?—зноў нібы запыталася, нібы папракнула Параска. Не зусім упэўнена дадала: — Хто цябе... прывязаў?

— Хто?! — Ганна стрымалася, сказала спакайней, як бы з павучэннем. — Не знаеш ты ўсяго! Па-свойму, па-гарадскому, думаеш!..

— Не па-гарадскому, па-нашаму, па-жаночаму — зразумець хачу!.. — запярэчыла Параска. — Жыць з чалавекам, не любячы яго, гэта, я так лічу, усё роўна што не жыць! А жыць — ненавідзячы — гэта ж... не ведаю, як і назваць!.. Гэта ж — катарга!

— А не катарга, думаеш!

— Катарга — дык нашто ж усё жыццё пакутаваць на ёй! За віну якую! Ці ты прывязана навек?

— А хіба — не? Не прывязана!.. Ды калі б не прывязана было, стала б я цярпець усё?! У мяне цяпер, можа, толькі і думкі — вырвацца!.. Начэй не сплю, думаю! Днямі толькі і жыву етым! Толькі і думаю, куды падацца! За чым абараніцца!.. За саломінку ўхапіцца гатова!.. Цябе от пабачыла, месца знайсці не магла! «А можа—параіць што?!» Хоць знала сама, якая твая парада будзе!..

Вялікія, з-пад чорных веяк Парасчыны вочы зірнулі ўважліва, разумна:

— Што ж цябе трымае найбольш?

— Што! Ён, мой суджаны, знаеш які! Сакерай галаву расколе і—не перахрысціцца!..

— Грозіўся?..

— Усяляк было! Суджаны ў мяне — такі! Не сумнявайся!.. Не здрыганецца рука!.. Тут да ўсяго дак шчэ—любоў! Любіць, кеб яго зямля не насіла!.. Жонцы сваёй мілай—разлучніцы — дак расколе галаву з радасцю! Не тое, што так, з нявыкруткі!..

— Я скажу яму! Судом пагражу!.. Расстрэлам!

Ганна ў адказ на Парасчыны словы толькі пакруціла галавой: як з дзіцячай выдумкі.

— Шабету папрашу, каб пярэдзіў! А трэба будзе, дык і Харчаву скажу!

— Будзе таму Харчаву ахвота важдацца! Тут і Шабета пакуль прыедзе, дак астынеш у крыві! Ды і баіцца ён таго Шабету! Яму што Шабета, што наш Хведзька — адзін страх! — Ганна дадала раздумліва. — Ды і кеб паслухаў ён покуль Шабету ці каго, дак усё ажно ж жыцця не будзе! Кожны дзень думаць, штоб не наткнуцца дзе на яго, век аглядацца, асцерагацца! У Куранях ухаваешся хіба дзе?.. Ён жа, калі і не прыдушыць адразу, дак дыхнуць вольно не дасць! Услед будзе лазіць усюды, цікаваць! Уся іх хеўра!.. Ганьба ж такая ім! Хіба ж яны прымірацца калі!..— Ганна разважыла: — Мо хіба — штоб далеко куды ўцекці! І на воко штоб не трапляцца!..

Параска раптам стала.

— Ведаеш, што я рашыла?.. — Ганна, якая таксама спынілася, убачыла ў чорных, як смародзіна, вачах радасць, рашучасць. Параска аб'явіла:— Пераходзь да мяне!

— Куды?

— У школу!

Ганнін твар заяснеў. У вачах, яшчэ якую хвіліну таму поўных болю і нянавісці, ззяла ўжо шчасце. Шчасце надзеі. Шчасце ўдачы. Яна аж памкнулася парыўна да Парасκі, мілай збавіцелькі!

Раптам радасць нібы апала. Цень клопатнасці прайшоў па твары.

— Не дастане, думаеш, там?

— Не зробіць нічога! А паспрабуе — па руках дадзім!

— Смелая ты—на словах!

— І ў жыцці — смеласці пазычаць не буду! Пабачыш, калі трэба будзе!

— Думаеш, уберагціся можно?

— Не сумнявайся!..

Ганна памаўчала, усё больш хвалюючыся. Яна, з боку было відаць — аж гарэла неспакоем.

— А што я там рабіць буду? — Пакпіла нібы: — Дзяцей вучыць?

— А як жа. Удваіх са мной!—Параска аж сумелася, як пільна лавіла Ганна яе словы; схамянулася, стала гаварыць сур'ёзна, дзелавіта: — Дзяцей і я павучу. А ты—памагаць будзеш, чым можаш. Прыбіраць школу пасля заняткаў, гатаваць... Ведаеш, мне столькі клопату з заняткамі, што проста няма калі варыць, пражыць. Ды і, калі сказаць шчыра, не вельмі і выходзіць гэта. А ты ж, можа, умееш?— Параска зноў не ўтрывала, усміхнулася.

Ганна, як і раней не зводзячы з яе ўсхваляваных, неспакойных вачэй, кіўнула галавой:

— На ето я вучоная..

У Ганне цяпер мітусілася, віравала цэлая бура нецярплівых, ліхаманкавых пачуццяў, развагаў, думак. Радасці, разлікі, надзеі, трывогі — усё круцілася, віхурылася без упынку, без яснасці. Чуючы гэту буру, Ганна з тым проста лавіла кожнае Парасчына слова...

— Работы хопіць! Абы ахвота! — турбавала яе Параска.— Дзяцей у нас ведаеш колькі? Сто семера! Як ні глядзіш, а гразі за дзень нацягнуць — за галаву возьмешся! Праўда, мы завялі такі парадак: дзеці самі і прыбіраць павінны, і падлогу скрабці! Але ж хіба адны зрабілі яны калі ўсё — як-трэба! Два класы, калідор! Ды парты, ды дзверы, ды вокны!.. Работы, абы ахвота была! — Параска схапіла Ганну за локаць, сказала з захапленнем: — Увесну— агарод выштукуем! На зайздрасць усяму раёну!.. А?..

— Глядзі, кеб патом... не пашкадавала! — толькі сказала Ганна.

Параска зразумела, пакляла ся:

— І ты не пашкадуеш!..

Адразу за гэтым яны разышліся. Ганна падалася назад у Курані амаль не бегам. Ногі яе, здавалася, ледзь дакраналіся вымачанай дажджамі, схаладнелай зямлі; у руках, ва ўсім целе чула яна нецярплівую, радасную дужасць, нястрымнае імкненне.

Але не прайшла Ганна і паўдарогі да сяла, як раптам з бегу-лёту стала, азірнулася да грэблі. Неспакойны позірк ляцеў ужо туды, з тугою, з нецярплівасцю лавіў далеч дарогі. Параскі ўжо не было відаць. Тырчалі адно голыя асіны ля цагельні.

Вецер біў у твар, у грудзі, і Ганна хілілася ў той бок, і хіліла галаву ўперад; вельмі было падобна, што яна намерылася кінуцца назад, за Параскаю. Ад ветру вочы жмурыліся, і гэта яшчэ дадавала твару рашучасці.

«Куды я іду? Чаго іду?! — мітусіліся ў ёй думкі.— Бацьку сказаць? Нашто? Паможа хіба чым? Ці ўсцешыць ето яго? Прыйдзе час, дазнаецца пра ўсё!.. Скажаш зараз—шчэ да мачыхі дойдзе! Шуму-ляманту нагоніць!.. Дабро пайсці забраць? Шкода мне таго дабра цяпер! Што леташняга снегу! Хай яно згарыць, прападзе пропадам! Разам з Карчамі!.. Не, забраць трэба! Якое яно ні е, там—матчыны ж чаравікі! Штоб яны ў Карчоў прападалі!.. Ды і то— кохту хоць ды спадніцу чыстую б мецы! Пераадзецца ў нешто ж трэба будзе!.. Забраць трэба!.. Мог бы, канешне, і бацько ўзяць! Але толькі і не хапае яму такога клопату! Вельмі рады будзе паказвацца ён там пасля ўсяго! Ды і вырвеш у іх патом!..»

Калі ішла к сялу, што нібы цікавала панурымі акенцамі, тварамі, стрэхамі хат і хлявоў, чула, як у грудзі паўзе і паўзе трывога. Трывога заныла і калі зірнула на родную хату, на купку чорных груш, на двор, па якім з хлява ішла мачыха. Трывога яшчэ памацнела, калі пайшла загуменнай дарогай, бліжэй і бліжэй да Карчоў.

«Трэба сабрацца так, кеб і не заўважыў ніхто. Штоб і падазрэння не було ніякага... Канешне, штоб у хаце тады ні старого не було б, ні Яўхіма. От, можа, зараз і зрабіць, Яўхім, пэўне, яшчэ не вярнуўся!.. Забраць матчыны чаравікі, андарак, кохту,—і ўсё. І нічога болей!.. І сысці хутчэй, нікому нічого не сказаўшы!.. Лесам сысці, штоб не бачыў ніхто! Штоб не ўчапіліся зразу!.. Патом, канешне, знайдуць! Але няхай патом грозяцца, калі не адна буду! Калі пад аховай, з Параскай!»

«А прыбяжыць! Прыбяжыць жа! — падумала пра Яўхіма.— Не саступіць так! — У грудзі папоўз страх. — Прыляціць туды, як звер ашалелы! Што яму тая школа, што Параска!.. — Супакоіла сябе:—Прыляціць — няхай прылятае! Няхай! Не вельмі ўкусіць!.. А і ўкусіць — усё адно! Усё адно ўжэ цяпер!.. Горай не будзе!..»

Яна была ўжо на Глушаковай сядзібе. Вочы дзіўна чула лавілі ўсё, што праходзіла каля яе, адзначалі. Гумно зачынена, стары, мабыць, у свірне. Не, і ў свірне нікога: і хлявы зачынены. Яшчэ ад свірна згледзела — двор пусты, Яўхім не вярнуўся. Яна не памылілася...

Сцяпан пад павеццю калоў дровы, выпрастаўся, глядзеў на яе. Яна нібы не заўважыла, нібы з заўсёдным спакоем прайшла міма, ступіла на ганак. У хаце былі старая і Глушак: свякруха корпалася чагосьці ў падпрыпеку, а ён пры акне рэзаў на дошчачцы тытунёвае бадылле, мяшаў — рыхтаваў на продаж.

Востра, нядобра зірнуў на Ганну, прамаўчаў. Яна хацела адразу падацца на сваю палавіну, але свякруха пераняла:

— Дзе ето гайсала?

Ганна ледзь стрымалася, каб не адрэзаць у адказ з нянавісцю. Але сцярпела: нашто заядацца, насцярожваць лішне!

— З Хведзькам дома пасядзела...

Зачыніўшы дзверы, падумала: тырчаць, як сычы, абое, бы на зло! То тупала па пакоі, нібы штосьці робячы, то садзілася на ложак, то зноў усхоплівалася, тупала, — што б ні рабіла, неспакой, нецярплівасць не аціхалі ні на момант. З неспакоем, нецярплівасцю гэтымі, якія часам апаноўвалі так, што, здаецца, не было як ужо стрымлівацца, слухала, лавіла гукі з суседняга пакоя,

# АСЕННІЯ ВЫСТАЎКІ

**Саюз мастакоў БССР рыхтуецца да асенніх персанальных выставак.**

**Сёлета будуць экспанавацца работы П. Гаўрыленкі, А. Шаўчэнкі, Л. Рана, Я. Ціхановіча, І. Давідовіча, М. Тарасікава.**

**Першай на чарзе выстаўка Пятра Нікіфаравіча Гаўрыленкі.**

**Мастак належыць да той плеяды дзеячоў беларускага мастацтва, якая сфарміравалася ў першыя гады культурнай рэвалюцыі. У яго творах адлюстраваны важныя этапы станаўлення Савецкай улады, будаўніцтва сацыялізма ў нашай рэспубліцы.**

**Першае вялікае палатно—«Разбраенне карнілаўскіх эшалонаў» П. Гаўрыленка прысвяціў грамадзянскай вайне. У 1931 годзе ён піша «Брыгада за працай у калгасе», «Шклобуд», «Аршанскі элеватар». На пятай Усебеларускай мастацкай выстаўцы ў 1932 годзе дэманструюцца «Пуск завода», «На будаўніцтве».**

**У гады Вялікай Айчыннай вайны мастак стварыў рад палотнаў, у якіх паказаў гераізм савецкіх воінаў.**

**П. Гаўрыленка з'яўляўся галоўным мастаком Беларускага павільёна на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ў Маскве. Афармленне павільёна — значны ўклад у беларускае выяўленчае мастацтва. З 1956 па 1961 год П. Гаўрыленка ўзначальваў Саюз мастакоў БССР.**

**Апошняя работа мастака — карціна «На рыштаваннях». Пасля смерці аўтара яна была паказана на рэспубліканскай выстаўцы. Хоць палатно і засталося незакончаным, яно і сёння хвалюе гледача. Разам з іншымі творамі карціна будзе паказана на персанальнай выстаўцы мастака.**

**М. СЕНІН.**



Мастак-аматар, мінскі інжынер Мікалай Пятровіч Грышчанка ўжо 38 гадоў займаецца арыгінальным відам мастацтва — выпальваннем па дрэву. Многія яго работы экспанаваліся на выстаўках у Мінску і Маскве. Свайму ўмельству ён навучыў больш 150 чалавек. І ў той жа час Мікалай Пятровіч працягвае вучыцца сам. Нягледзячы на паважны ўзрост, ён займаецца на курсах пры Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Фота І. СТЭЦА.

